Цана асобнага № 30 кап.

# Вольная Беларусь

Тыдневік палітычны і літэратурны.

**Умовы падпіскі:**
На год......12р. —
На поўгода.... 7р —
На 1 мес.... 1р. 50к.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: г. Мінск Захараўская, 18. Тэл. 776.

Перамена адрэсу 50 к.

Год выдання II.

Ніхай жыве Нізалежная Беларусь!

Зьмест № 15: **К Богу праведнаму,** верш Ц. Гартнаго; **Верш,** Макара; **Беларусь і Украіна,** Я. Л-ка; **Забыты шлях,** М. Богдановіча; **Хараству,** верш Ясакара; **Як дзядзька езьдзіу у Вільню і што ен там бачыу,** верш—разсказ Якуба Коласа; **Кроніка, Вершы** і др..

№ 15. 1918 г. 28-го красавіка 1918 г. № 15.

## К Богу праведнаму.

Вузкаю дарогай к праведнаму Богу
Сьмела ты ідзі,
Стомленых душою цеснай грамадою
За сабой вядзі;
Вечнае пытанне, вечнае жаданне
Кемкасьцю будзі.
Далі ты ім тыя, ясныя, сьвятыя,
Кветкамі убірай
Ды пагудна зыкі аб іх сэнс вялікі
Весяла сьцевай.
Прамем іх біскучым ды красой цьвітучай
Пекна убірай.
Сам усягды гатовы будзь на тыя зовы
Што з далі ідуць,
Ды істоце утомнай бодрасьці таемнай,
Веры дадаюць.
Кінь на усход рукою крэпкай маладою
Й гэтым пакажы
Сьцежку ім, дарогу, к праведнаму Богу.
Уперад — ні дрыжы!

**Цішка Гартны.**

* * *

Мы знаем Бацькаушчыны горо,—
Без меры цяжкі льос яе,—
І горкіх сьлез народных моро,
І усе, што доля нам дае.
Зауседы хмары у нас на небі
І нібы сонца ні відно.
Мы заусягды а чорным хлебі,
Жывом без шчасьця.,. Дзе яно?
Ой, доля, доля! дай мне крылля!
Усю Беларусь я аблячу,
Бо усе, што беды натварылі,
Адразу выведаць хачу.
Паляк нам веру ценгля раіу,
Гарэлкай рускі нас паіу
Ды пьяны матку нашу лаяу
І імям царскім нас судзіу.
Нам добра знана іх апека;
Пара забыцца ужо аб тым,
Пара імя нам чалавека
Знаць вольна-чыстым ды сьвятым.
Мы век нікога ні душылі,
А бараніліся усяго.
За што ж нядолю заслужылі?
Ці чым прагневалі каго?
А гора шмат.. Ні убачаць дзеці
Таго, бацькі што сьцяраглі;
Яны ні лазілі па сьвеці,
Па-людзку ціхінька жылі.
Пазналі усе, як пекна воля,
Але ж ні умелі шанаваць
Яе наперад мы ніколі;
За гэта ж мусім гараваць.
Ідэя босых ні абуе,—
Яна ні той чароуны бот.
І волі р о з у м патрэбуе,
А ні адзін галодны ж в о т.
Дык трэба дбаць. Зауседы трэба
Адпор зрабіць ліхой бядзе,
Бо, як у байцы, манна з неба,
Відаць, ніколі ні спадзе.

**Макар.**

## Беларусь і Украіна.

Нас заусюды злучало з Украінай пачуцце брацкай салідарнасьці. Найбліжэйшы да беларусау моваю, культурай і супольнасьцю гістарычных традыцый, народ украінскі быу для нас тым блізкім народам, каторы разумее нас і катораго разумеем мы, с каторым можна гаварыць аб усем, што набалело ка сэрцы і што патрабуе суседзкай парады і брацкай развагі. У іх і у нас была адна мэта, адно заданне, адзін шлях паратунку. Іх радасьць была нашаю радасьцю, іх горо было нашым горам.

Нас ні толькі еднала гістарычная супольнасьць у мінуушчыні, а і аднакая доля у сучаснасьці. Мы разам пакутавалі пад ігам Маскоушчыны, разам змагаліся колісь с польскім панаваннем, разам нас душылі, разам панявералі і зводзілі с сьвету,—разам жа мы выступілі і на цяжкі шлях вызваления. Дзяржаунае будауніцтво у межах этнаграфічнаго разсялення было нашым заданнем і, здавалося, што па дарозі да гэтай мэты нас ні стрэнуць ніпаразуменні, і мы згодна, без перашкод, адны адным дапамагаючы, дойдзем да лепшае долі, да сьветлай нацыянальнай будучыны. А вот сталася ж,—сталася так, што этнаграфічна беларускія землі, як Мозыр, Рэчыца, Гомль, наша Чарнігаушчына далучаюцца да Украіны...

Хочацца думаць, што гэта ні так, што гэтаго ні будзе і ні можа быць, бо і быць ні павінна. Няужо й самі украінцы ні адчуваюць гэтаго? Няужо ні разумеюць таго, што учынілося? Няужо яны с ь в я д о м а далучаюцца да гэтаго? Мабыць так, але ні усе. Прынамсі «Нова Рада», орган нізалежнай грамадзянскай думкі, зьвяртае увагу грамадзянства украінскаго на гэты ніпармальны стан рэчы. Яна зазначае, што «адносіны нашы да беларускай справы наогул і спэцыяльна да тых пауднёвых беларускіх зямель, каторыя нібы-то маюць адыйсьці да Украіны, павінны паслужыць пробаю сапраудпасьці нашаго дэмакратызму і вернасьці — сьвяшчэнным прынцыпам пашагі да чужых прау. Мы ні павінны забываць, што нацыянальнасьць — рэч ніумірушчая; калі яна часова прыдушана вагою цяжкіх варункау гістарычнай долі, дык яе час надыйдзе і адродзіцца яна счакаушы. Дык ніхай жа ні спадзе тагды на нас пляма, што і мы былі сярод тых, хто, карыстаючыся с цяжкаго стану нацыі, пасягнуу на яе жывую частку. Сьлед нашаму грамадзянству, нашай прэсі зьвярнуць большую увагу на долю братняго народу, каб ні кінулі на нас таго самаго дакору, які мы раней рабілі братом суседам: што нас ні ведалі і ні хацелі з намі пазнаеміцца. Праудзівая, салідная узаемная інформацыя — пачатак добраго узаемнаго паразумення».

Справядліва «Нова Рада» кажа, што народ беларускі перажывае цяпер вялікую трагэдыю падобную да тае, якую перажывалі яны у другой палові XVII го веку, калі Украіну разарвалі на дзьве часткі, раздзеленыя між сабою Дняпром, і за кожную з гэтых частак змагаліся паміж сабою суседзі — Масква, Польшча і Турэччына, уцягаючы да сваіх спорак яшчэ і другія дзяржавы. Цяпер дзеліцца Беларусь, але ні на дзьве, а на чатэры часткі, па ліку сваіх суседзяу. На Беларусь кваляцца усе яе суседзі — Польшча, Масква і Літва, ні спынілася перад гэтым і Украіна. Ні спынілася... але павінна спыніцца і адыціся назад, бо што подчас забываецца і даруецца чужым, таго ні можна забыць і дараваць с в а я к о м.

Мы разумеем, што шмат с таго, што цяпер дзеецца, ні заусюды выцякае з добрай волі дзеяча, і толькі гэтым хочам тлумачыць сабе факт прылучэння этнаграфічна беларускіх зямель на поудні да Украіны. І тут, як і усюды, праудзівая інформацыя павінна стаць на дапамозі. Беларус павінен упэуніцца, што тут прычыны ні хатнія, а надворныя, што час выраунуе тое, што парыто вайною і, прымусова нарушанае, право нацыі будзе выпраулено. Мы павінны дасьведчыцца і цьверда упэуніцца, што, калі гістарычны льос судзіу пауднёвым часткам зямлі беларускай быць далучанымі да суседкі-прыяцелькі, то ставецца гэта часова і беларушчына будзе там забезпечана, як

паненка, што надзела ўзятую ад вясковай дзяўчыны шнуроўку]. Але, як кожны бачыць, гэта ні шлях да шырокаго развіцця поэзіі. Да таго ж ні забудзем, што праз такія запазычкі чытач пачынае неяк сумлевацца у творчых сілах пісьменніка: мо' таму ён запазычае, што свайго стварыць ні можа? Калі запазычалае—сапраўды рэч капітоўная, дык вынікае думка: чаго варт пісьменнік, у катораго лепшае — запазычкі? А дзехто, можна спадзявацца, нават крыкне: плагіят! Але досыць аб гэтым. Ці рабіць тыя запазычкі, ці ні рабіць — паважнаго значэння ні мае. Для шырокай жа працы трэба станавіцца на другі адзначаны намі шлях.

Аднак і тут можна ісьці па рожнаму: можна старанна удаваць тое, што ёсьць у народнай песьне, кіруючыся, каб даць вытвор, які ні можна было б адрожніць ад народных. Гэта сталося б каронай для такой працы. Можна пісаць і інакш, — ні намагаючыся падрабіцца пад народную песьню, але у народным дусі, прыклад чаго даў Каганец у сваім «Кабзарэ».

Проці першаго способа многа можна сказаць. Напісан верш, катораго ад народнай песьні і ні адрожніш. Гэта — трыумф пісьменніка, стаўшаге на такую цуціну. Але на што той верш? Ці ж замала было народных песьняў і без яго? Далей,—мы жа радзімся аб развіцці народнай поэзіі, а тут, у лепшым выпадку, становімся у ровень з ёю, аб развіцці ж німа і мовы. Яшчэ адно: круг сюжэтаў песьні ні шырокі. Ен хутка будзе пройдзен увесь да канца, і тагды пачнуцца прыкрыя паўтарэнні старога, ужо сказаннаго;пісьменніку будуць зьвязаны скрыдлы, поэзія упрэцца чалом у сьцяну. Урэсьці ж, адна рэч—песьня, другая—верш: песьня пяецца, і гэтае робіць да яе такія вымогі і надае ёй такія прыкметы, удаваць каторыя у вершу было б сьлепатой.

Астаецца апошні шлях. Ісьці па яму — справа верная, але ні безпечная. Бо што такое той «народны дух»? На ім німа ані клейма, ані плёмбы, а таму пад яго прыкрыццем канечне будуць заносіцца у нашу пісьменнасьць і насьледаванні з вялікарускай і украінскай народнай поэзіі, пад уплыў каторай так лёгка падпасьць, і уласныя нікчэмныя выдумкі і яшчэ шмат чаго. Ізноў скажу, — шлях верны, але ні безпечны. Думаецца, пакуль мы робім першыя крокі, трэба нам трымацца народнай песьні, як сьляпы трымаецца плоту, трэба стаць бліжэй да першаго з абодвых способаў творчасьці, але пры гэтым мы павінны памятаць, што ён добры толькі для пачатку працы, што па ім далёка ні зайдзеш і што раней, або пазьней мы павернемся на шырокі, у безмерную даль пралегшы, шлях. Дзе яго шукаць — мы ужо гаварылі.

---

Мы падайшлі к канцу. Астаецца сказаць усяго некалькі апошніх слоў.

Намагаючыся зрабіць нашую поэзію ні толькі мовай, але і духам і складам твораў, шчыра беларускай, мы зрабілі б цяжкую памылку, калі б кінулі тую вывучку, што нам давала сьветавая (найчасьцей эўропэйская) поэзія. Гэтая апошняя праца павінна ісьці поўным ходам. Было б горш, чым нідбальствам, нічога ні узяць с таго, што соткі народаў праз тысячы год зьбіралі у скарбніцу сьветавой культуры. Але заносіць толькі чужое, ні разьвіваючы свайго,— гэта яшчэ горш: гэта знача глуміць народную душу. Да таго ж адны жабракі могуць праз усё жыцце толькі браць. Трэба ж і нам, бяручы чужое, калі-ні-калі даць нешта сваё. А свайго, як мы бачым, мы давалі меней, чым маглі.

**М. Богдановіч.**

---

# На ціхім Дунаю.

*(Вершы беларускаго складу).*

Няляцелі гусі з далекаго краю,
Скаламуцілі воду у ціхім Дунаю.
*Народная песьня.*

**Бяседная.**

А чалом, чалом, мае госьційкі,
Сабірайцеся на бяседачку,
На бяседачку ў хату новую,
Ў хату новую — сасновую
Ды за столікі кляновыя,
За абрусікі бялёвыя.
Ой, бялёвыя-саматканыя
У вузоры вышываныя.

Вышывала я у сем шаўкоў,
Вышывала каршуновы суд.
Ен суды дае — перасуд бярэ;
З большых птушак—хоць па перыйку,
А з драбнейшых, дык і цэлы хвост.
Прыходзіў тут мужык-варабей,
Каршуну у ногі кланяўся,
На сініцу-цешчу жаліўся.
Ні дамовіў ён скаргі свае,
Як пачаўся і трэск і грук.
Успырхнулі усе, зьлякаўшыся,
Разляцелісь хто куды здалеў.
Каўка неяк затрымалася
Ды і тая пахавалася —
І вузораў ні асталося.

Ды красна бяседа ні вузорамі,
А ласкавымі прыгаворамі;
Ні эдвабнымі абрусамі,
А ласкавымі прымусамі.

* * *

У Максіма на кашулі вышыты галубкі;
Я за тое вышывала, што цалуе губкі.

У Максіма на кашулі вышыты лісточкі;
Я за тое вышывала, што цалуе вочкі.

У Максіма на кашулі вышыты падкоўкі;
Я за тое вышывала, што цалуе броўкі.

* * *

Як прышла я на ток малаціць —
У задуменню застаялася
Ды зненацку разсьмеялася.
Навят сорам на хатніх зірнуць:
Ці ні ўцямілі, хвароба на іх,
Ад чаго мой тварык сьмяецца,
Ад чаго мае сэрцайко бьецца.

* * *

Хоць і зорачка — ды ні вячэрняя,
І каханачка — ды ні верная.
Пакахала — як яхант даравала:
Яхант-камень--сэрцу ён на гараванійко.
Прападаю праз каханійко.

* * *

... А як сьмерцю Максіма скаралі,
Рукі белыя да брамы прыбівалі.
Рукі белыя да брамы местовай,
Галаву да вежы вартовай.
Каб дажджы яму кудры мачылі,
А вятры бы сушылі;
Каб крукі прылятылі—вочы дзюбалі,
Усе бы людзі пазіралі — ды ні забывалі.

**Максім Богдановіч.**

---

# Харастве.

Ты — мой закон, мая душа, мая рэлігія, мой Бог.
І кожну хвілю я табе малітвы новыя твару.
Табой я шчасьліў, я—твой жрэц, хвалу табе пяе мой рог.
Я—сеўбіт твой, я—твой ратай, я паласу тваю ару.

Усюды бачу я цябе з вянком вясёлак на чале,
З вясновым сонцам у вачох, с парывам творчасьці ў грудзях,
З букетам красак у руках, у вечным радасным сьвятле.
Са сьпевам цудным аб зямлі, аб зьверах, травах і людзях.

Гармоніей твае душы напоўнен Божы сьвет увесь
Ад шума ветра між далін да сумнай дудкі пастушка.
Табою веіць вешні луг, грамады гор, зялёны лес,
Хварбуеш вусны шчыр-дзяўчат і кволы коўшык васілька.

І кудры старца беліш ты, у дзяцюка твой бляск вачэй.
У нябёсах зоркі лічыш ты і аксаміт ў лагчыне тчэш.
У лані грацыя твая. Варожыш цішыню начэй.
А песьняром — сыном зямлі — натхненне вечнае даеш...

шэй намяцёныя катэгорыі будуць аслабонены. Яны ні выправаджаны у Гэрманію, а застаюцца трошкі заходней Менскаго району. У будучыні ні толькі мірныя жыхары, але і быўшыя ваеннаслужачыя, паказаўшыя патрэбныя пасьвядчэнні, затрымовывацца ні будуць. Што тычыцца жанок, дык аб іх затрыманню жаднаго загаду нікім ні рабілося, і чутка гэтая—плод ганебнай выдумкі.

На увагу дэлегацыі, што Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, як ядыны поўнамоцны краёвы орган, выказвае пажаданне, каб окупацыйная улада уходзіла у кантакт з ёю на конта розных спраў, датычных насялення Менску і наогул краю,—палкоўнік фон-Келлэр адказаў, што у гэтым пытанню ён ні компэтэнтны весьці размову, але згадзіўся перадаць гэта вышэйшаму камандаванню.

**Пастанова Віленскай Беларускай Рады.** Прымаючы пад увагу: 1] што бытнасьць, падтрымліваных «энтэтай» дзеля яе палітычных мэт, чужацкіх войск на адвечна Беларускіх землях можа у будучыне аказацца прэцэдэнтам для прылучэння гэтых зямель да Польскаго каралеўства, або дзеля дамагання тэрытарыяльных компэнсацыяў у постаці беларускаго Беластоцкаго вокруга, сумежнаго с Польшчай;

2) што, абвешчаючы прылучэнне закардоннай Беларусі да Польскай манархіі, польскія войскі выяўляюць гэтак захватныя тэндэнцыі на беларускія землі, і іх чыннасьць з гэтаго погляду перастае ужо быць самаабаронай палякоў ад бальшэвіцкай анархіі і прыбірае характар вялізнай палітычнай авантуры, каторая ідзе супроць жыццёвых інтарэсаў беларускаго народу і супроць яго жадання нізалежнасьці;

3) што расійскія войскі, каторыя па загаду расійскаго ураду аружнай сілай перашкодзілі утварэнню беларускай нацыянальнай арміі, самі ні здолелі утрымаць беларускія землі і блізка саўсім пакінулі іх, ні споўніўшы перад імі сваіх павіннасьцяў і абяцанак;

4) што Беларусь ад XIII-го да канца XVIII-го сталецця была нізалежна, складаючы разам з літоўцамі асобную дзяржаву [Вялікае Княжство Літоўскае], і, посьля прылучэння яе гвалтам да Расіі, праз сто дваццаць гадоў няволі і уціску ні переставала дабівацца нізалежнасьці навят с аружжам ў руках (1812 — 1905 г.г.);

5) што бальшэвіцкі урад далей вёў палітыку гвалту над беларускім народам, даўшы яркае выражэнне гэтаго у разгоні Усебеларускаго Зьезду у Менску,—

Беларуская Рада, аб'яўляючы разарванай зьвязь між Беларусьсю і Расіей, выказывае свае дамаганні:

1) каб польскія войскі чым хутчэй вышлі з беларускіх зямель, на каторых беларускія краёвыя арганізацыі возьмуць пад сваю апеку і менне і жыцце жыхароў;

2) каб пакінутыя на няміласьць долі Беларускія землі за фронтам былі ураз жа далучаны да акупованай часьці Беларуска-Літоўскаго краю дзеля арганізацыі тут нізалежнаго дзяржаўнаго бытавання;

3) каб сумежныя с Польшчай спрадвечна беларускія землі [Беласток, Гродня) ні ў якім здарэнню ні былі вылучаны з рэшты краю дзеля прылучэння да Польскаго каралеўства.

Беларуская Рада, апіраючыся на рэзолюцыі Беларускай Конфэрэнцыі у Вільні 25, 26 і 27-го студн. 1918-го году (аснаўныя пункты да гэтаго дадаюцца) і на пастанове разагнанаго бальшэвікамі Беларускаго конгрэсу у Менску 7-18 XII, 1917 г.,—зьвяртаецца да усіх дзяржаў, прызнаючых прынцып самаадзначэння народаў, а ў першы чарод да Нямеччыны, каторая мае найбольш супольных з Беларуска-Літоўскім краем эканамічных інтарэсаў, с прызывам аказаць помач у справе адбудовы дзяржаўнай нізалежнасьці калішняго Літоўска-Беларускаго гасударства [Вялікаго Княства Літоўскаго], ні узіраючыся на няпераншні раздзел яго лініей фронту. Вільня, 18-го лютаго 1918-год..

Падпісалі: Прэзэс Беларускае Рады — А. Луцкевіч, протоіер. М. Голенкевіч, ксёндз В. Талочка, К. Фалькевіч, Дулька. Сябрукі Рады: Я. Туркевіч, Я. Салавей, І. Луцкевіч, Я. Станкевіч, М Радзевіч, М. Перскі, Сэкрэтар Рады: Д. Семашка.

## З вершаў Надсона.

I.

**Над сьвежай магілкаю.**

Я зноў адзін — і зноў вакол
Усё тая ж ноч і цемра вые.
Міне на сьвежы гэты дол
Прыслалі думкі нізямныя...
Чаго чакаць, на што мне жыць,
На што змагацца, клапаціцца?
Мне больш німа каго любіць,—
Мне больш німа каму маліцца.

II.

Сьпі спакойна, мая дарагая!
Толькі у сьмерці жаданны спакой,
Толькі у сьмерці брыво ні маргае,
Ні зайдзе безнадзейнай сьлязой.
Ні засмуціць маркотная думка
Мілай русай галоўкі твае;
Без трывогі твая будзе трунка,
Вечным сном цябе шчыльна скуе.
Белы гроб твой накрыты зямлею,
Белы крыж над табою стаіць -
Ен пасьвенчаны шчырай мальбою,
Яго сьлёзка мая акрапіць.
Я даўно так ні плакаў... Здаецца,
Што ў грудзях, затамлёных бядой,
Усё сьвятое адразу прачнецца,
Каб шалёны быў жаль над табой.
Вось вярнецца вясна і з вясною
Мілы госьць — салавей прыляціць
І ў цішэйшую ноч над табою
Срэбрам песьня яго зазьвініць,
І зяленая ліпа старая
Ад тэй песьні замрэ над табой...
Сьпі ж спакойна, мая дарагая!
Толькі ў сьмерці жаданны спакой...

**Макар.**

Рэдактар Я. Лёсік.